Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 46 (97). Вільня, Субота 11 Чэрвеня 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## На выбары у валасныя Рады.

Польскі ўрад прысьпешаным парадкам маніцца за сёлетняе лета правесьці выбары ў валасныя рады. У некатарых мясцох ужо на‘т вызначаны выбары раённыя сяброў валаснога сабраньня. Трэба ведаць, што паводле закону ген. кам. Асмалоўскага, які зьмяшчаем у гэтым нумары „Сял. Нівы“, выбары ў валасныя рады будуць адбывацца не беспасярэдня ўсімі жыхарамі воласьці, а пасярэдня праз дэлегатаў, ці інакш сяброў валаснога сабраньня.

Уся воласьць дзеліцца на раёны (абводы), кожная вёска або фальварак павінен станавіць такі выбарчы раён. У кожным раёне вызначаецца старастам выбарчы камітэт з 3 асоб, (пераважна гэта павінны быць заўсёдныя жыхары гэтага раёну—вёскі), які і праводзе выбары сяброў валаснога сабраньня, карыстаючыся прынятымі мясцовымі звычаямі. Задача нашага сялянства павінна заключацца ў тым, каб на раённых выбарах выбіраць адпаведных сяброў валаснога сабраньня. У сябры валаснога сабраньня трэба выбіраць сваіх людзей моцных, якія могуць сьмела бараніць інтэрэсы працоўнага сялянства і ня пойдуць у адну руку з абшарнікамі і асаднікамі. Ад складу сяброў выбарнага сабраньня будзе залежыць і склад будучае валасной рады, бо ўся валасная рада выбіраецца якраз дэлегатамі з вёсак, ці інакш сябрамі валаснога сабраньня, выбранымі на раённых выбарах. Дык, ёсьць ведама, усім трэба зьвярнуць вялікаю ўвагу на тое, каб пры выбарах на вёсках выбіраць у сябры валаснога сабраньня толькі добра ведамых і стойкіх сялян, якія падчас валаснога сабраньня патрапяць саставіць сьпіскі кандыдатаў і правядуць у раду толькі сваіх людзей. Каб сябры валаснога сабраньня дэлегаты ад вёсак маглі на сабраньні арганізавана выступіць, павінны яны загадзьдзя, да часу скліканьня сабраньня, паразумецца між сабою і саставіць свой сьпісак кандыдатаў у радныя валасной рады. Угэтым сьпіску пішуцца прозьвішчы і імёны кандыдатаў, побач з прозьвішчамі павінны быць пастаўлены чарговыя нумары пачынаючы ад першага, апрача таго трэба падаць век (сколькі гадоў) прафэсію (чым займаецца) і адрас (назоў вёскі ў якой жыве) кожнага кандыдата. На кожным сьпіску трэба паставіць каля 18 кандыдатаў—паўтара раза столькі, колькі мае быць сяброў валасной рады.

Такі сьпісак трэба каб падпісалі ня менш 5-ёх сяброў валаснога сабраньня, лепш, каб было больш подпісаў. Як толькі будзе склікана валаснoе сабраньне, сябры гэтага сабраньня павінны ісьці на выбары ўжо з гатовым сьпіскам кандыдатаў у валасную раду. Прышоўшы на сабраньне сябры, выбраныя ад вёсак, павінны пастарацца, каб было менш сьпіскаў кандыдатаў ад сялянства. Яны павінны пачаць гутаркі з паасобнымі сялянскімі групамі, што маюць падаваць асобныя сьпіскі і дагаварыцца з імі, каб яны не падавалі сваіх сьпіскаў, а ўсе злучыліся разам і саставілі адзін супольны сьпісак кандыдатаў.

Чым менш будзе сялянскіх сьпіскаў, тым больш можа прайсьці сялянскіх кандыдатаў у раду. Дык пры выбарах у валасныя рады ўсё беларускае сялянства павінна дружна выступіць і аб‘яднацца, ня гледзячы на розныя палітычныя перакананьні, на невялічкія маемасныя рожніцы. Але з людзьмі, што ідуць проці беларускага сялянства, што працуюць на шкоду нашага адраджэнскага руху—ня можа быць ніякага аб‘яднаньня. Наадварот усё сьвядомае сялянства павінна павесьці арганізацыйную выбарную працу ў тым кірунку, каб выбраць у валасную раду толькі сваіх сумленных і сьвядомых беларусаў-сялян, і недапусьціць да самаўрадаў шкоднага элемэнту, і элемэнту, што ідзе проці нашага адраджэньня.

Дык усе, сяляне, дружна грамадой ідзіце на выбары і праводзьце ў валасныя рады сваіх сялянскіх прадстаўнікоў.

А. Саюзьнік.

## Забойства савецкага пасла Войкава у Варшаве.

### Першыя весткі.

Як выясьнілася, дык савецкага пасла ў Варшаве Войкава забіў Барыс Кавэрда, супрацоўнік-карэктар паўлюкевічаўскае газэты „Беларускае Слова“.

Забойства здарылася на вагзале, куды прыехаў Войкаў, каб пабачыць Розэнгольца, які як савецкі прадстаўнік у Лёндане, пасьля дыпляматычнага разрыву з Англіяй, варачаўся цераз Варшаву ў Маскву.

Забойца Б. Кавэрда арыштаваны і будзе суджаны, толькі ня ведама якім судом: звычайным ці надзвычайным (даразным).

Аб прычынах, якія пабудзілі Кавэрду да забойства савецкага пасла, сказаць што-колечы запраўднае, цяпер яшчэ нельга. Гэтую старану справы хіба суд выясьніць.

Польскі прэзыдэнт выслаў спагадную тэлеграму ў Маскву старшыні Выканаўчага Камітэту С. С. С. Р., а мін. Залескі выслаў гэтакую самую тэлеграму камісару замеж. справаў.

Цела забітага пасла Войкава забальзамавалі і адправілі ў Маскву.

### Арышты ў Варшаве і Вільні.

У сувязі з забойствам Войкава ў Варшаве адбыліся вобыскі і арышты сярод расейскае эміграцыі, а нават і сярод польскіх грамадзян па нацыянальнасьці Расейцаў.

У Вільні таксама адбылося 46 вобыскаў і 24 чал. арыштавана. Арыштаваныя звольнены. На правінцыі арыштавана 15 чалавек.

### Дэманстранцыі і арышты сярод камуністых.

У часе, калі цела Войкава перавозілася з бальніцы да памешканьня пасольства ў Варшаве, дык, як падае „Słowo“, камуністы прабавалі наладзіць маніфэстацыю. Быццам некалькі асобаў з гэтае прычыны арыштавана.

### Савецкая нота.

Савецкі ўрад цераз польскага пасла ў Маскве перадаў польскаму ўраду ноту з прычыны забойства Войкава, у якой гавора, што забойства зьяўляецца акцыяй расейскіх эмігрантаў—контрэвалюціянераў, да якіх польскі ўрад не заняў выразнага становішча, на што Саветы ня раз зьвярталі ўвагу польскага ўраду.

Савецкі ўрад выражае свой катэгарычны пратэст і адказнасьць за забоўства кладзе на польскі ўрад, а таксама засьцерагае, што да справы забойства яшчэ вернецца па атрыманьні падрабязных вестак аб забойстве.

Адказ на савецкую ноту польскі ўрад маніцца даць пасьля праведзеньня сьледства ў справе забойства.

### Маскоўскія ўражаньні.

Першую вестку аб забойстве савецкага пасла Войкава ў Варшаве, Рада Народных Камісараў у Маскве атрымала па радыё. Адразу было склікана паседжаньне савецкага ўраду, якое трывала ў працягу дзьвёх гадзін.

Пастановы ніякае не прынята, дзеля таго, што ня было падрабязных інфармацыяў.

Надзвычайныя выпускі газэтаў выданых у тысячах экзэмпляраў паведамілі насяленьне Масквы аб забойстве пасла Войкава ў Варшаве. На вуліцах і пляцах зьбіраліся вялікія мітынгі, на якіх выражана пагрозы Польшчы і наагул усім капіталістычным дзяржавам.

Вечарам адбыўся вялікі мітынг для ўшанаваньня памяці Войкава, на мітынгу былі прысутнымі прадстаўнікі савецкага ўраду і камуністычнага Інтэрнацыяналу.

Польская камуністычная партыя ў Саветах выдала адозву, якою робіць закіды маршалку Пілсудскаму і польскай сацыялістычнай партыі, што быццам інспіравалі замах на савецкага пасла Войкава ў Варшаве.

### Кандыдат на месца Войкава.

Магчыма, што месца савецкага пасла ў Варшаве займе Розэнгольц, які быў савецкім паслом у Лёндане і які пасьля дыплёматычнага разрыву з Англіяй цяпер вольны.

---

**— Ліквідацыя аб‘яднаных.** „Наша Праўда“ піша: „З прычыны ўнутраных спрэчак паміж партыямі, якія ўтварылі Аб‘яднаны Выбарчы Камітэт Сацыялістычных Партыяў і Прафэсыянальных Саюзаў,—Камітэт гэты зьліквідаваўся“.

Пасьля ліквідацыі гэтае мазьні, у якой бралі ўдзел і Беларусы згуртаваныя каля „Нашае Праўды“, некаторыя асколкі зьліквідаванага Сац. Аб‘яднаньня пробуюць стварыць камітэт пад фірмаю „Работніцкага Аб‘яднаньня“.

І вось, у гэтым „аб‘яднаньні—раз‘яднаньні“ „Нашае Праўда“ бачыць перамогу!

# РАСПАРАДЖЭНЬНЕ

**Генэральнага Камісара Усходніх Зямель аб часовым выбарчым законе на валасныя сабраньні і ў рады.** (Dz. Ust. Z. C. Z. W. z 1919 r. Nr. 7 poz. 45).

*Арт. 3.* Для правядзеньня выбараў арганізуецца ў кожнай воласьці валасны выбарчы камітэт, які складаецца са старшыні і ад 3 да 5 сяброў, назначаных павятовым камісарам (цяпер старастаю).

Прынамся большая частка камітэту павінна скадацца з жыхарства дадзенай воласьці. Сябрамі камітэту могуць таксама быць войт і іншыя ўрадоўцы валаснов адміністрацыі.

*Арт. 4.* Кошты выбараў пакрывае павятовы ўрад, аднака-ж з тым, што воласьць абавязкава павінна зьвярнуць яму выдаткі.

У сувязі з гэтым павятовы камісар павінен вясьці для кожнае гміны падрабязныя рахункі выдаткаў, зробленых на правядзеньне ў ёй выбараў і адпаведна гэтыя рахункі захоўваць.

### Правілы аб выбарах на валасное сабраньне.

*Арт. 5.* Лічбу сяброў валаснога сабраньня для кожнай воласьці вызначае павятовы камісар у залежнасьці ад засяленьня воласьці, а таксама ад колькасьці вёсак, асадаў і фальваркаў, якія ў ёй знаходзяцца. Аднак-жа лічба гміннага сабраньня ня можа быць меньш як 100 і больша як 150.

*Арт. 6.* Валасны выбарчы камітэт дзеліць воласьць на раёны (абводы) галасаваньня. Па правілу кожная вёска, а таксама кожная асада ці фальварак твораць асобныя раёны галасаваньня, аднак-жа гэтыя адзінкі пры ўтварэньні раёнаў галасаваньня могуць быць раздзелены ці злучаны між сабою,

*Арт. 7.* У кожным раёне (абводзе) арганізуецца выбарчы камітэт, складзены з двох сяброў і старшыні, назначаных валасным выбарчым камітэтам.

*Арт. 8.* Лічбу мандатаў, якая прыпадзе на раён галасаваньня, вызначае валасны выбарчы камітэт тасуючы да лічбы насяленьня тых раёнаў.

*Арт. 9.* Актыўнае выбарнае права на гмінныя сабраньні маюць усе грамадзяне бяз рожніцы полу, якім скончылася 21 год і якія стала пражываюць у межах раёну галасаваньня найменей 10 месяцаў. Асобы, якія маюць у раёне галасаваньня нярухомую маемасьць, найбліжэйшых сваякоў, а таксама ўся іх хатняя і земляробская абслуга (напр. дворныя парабкі), карыстаецца выбарчым правам незалежна ад часу сталага пражываньня ў межах раёну галасаваньня.

*Арт. 10.* Ня могуць карыстацца выбарчым правам: 1) тутэйшы павятовы камісар, 2) урадоўцы службы публічнага бяспечнасьці (г. зн. паліцыя), 3) асобы, якія служаць у войску.

*Арт. 11.* Пазбаўлены выбарчага права: 1) асобы, якія ўтрацілі правы ці аграніченыя ў правох судом, 2) асобы, проці якіх в'ядзецца судовае сьледства за праступкі, якія пазбаўляюць ці агранічаюць правы.

*Арт. 12.* Выбранымі на валасное сабраньне могуць быць асобы, якія адпавядаюць наступным двум варункам лучна: 1) маюць дзейнае выбарчае права і могуць ім карыстацца, 2) маюць поўных 25 гадоў.

*Арт. 13.* Дзень выбараў вызначае павятовы камісар, падаючы адначасна да ведама гадзіну выбараў і месца, у якіх яны адбудуцца.

Выбары адбываюцца ў кожным раёне пад кіраўніцтвам старшыні тутэйшага выбарчага камітэту, адпаведным тутэйшым звычаем выбіраньня.

*Арт. 14.* Па заканчэньні выбараў пішацца падрабязны пратакол, у якім павінна быць упісаны прозьвішчы старшыні і сяброў тутэйшага выбарчага камітэту, час працягу выбараў, колькасьць галасаваўшых, спосаб галасаваньня і рэзультаты выбараў.

Пратакол падпісвае старшыня і сябры тутэйшага выбарчага камітэту. Старшыня камітэту адсылае 2 копіі пратаколу ім самым пасьведчаныя валасному выбарчаму камітэту, які адзін экзэмпляр адсылае павятоваму камісару.

*Арт. 15.* Адразу па заканчэньні выбараў старшыня тутэйшага выбарчага камітэту павінен абвясьціць іх рэзультаты.

*Арт. 16.* Пасьля атрыманьня пратаколаў з усіх раёнаў галасаваньня, валасны выбарчы камітэт павінен абвясьціць сьпісак асобаў выбраных на валасное сабраньне.

### Правілы аб выбарах да валасное рады.

*Арт. 17.* Валасная рада скадаецца з войта і радных, у колькасьці $^{1}/_{10}$ сяброў валаснога сабраньня, прыпушчальна на 1 болей, калі лічба сяброў валаснога сабраньня ня дзеліцца на 10 і астаецца рэшта большая як 5.

*Арт. 18.* Радных выбірае валасное сабраньне з пасярод асобаў, якія маюць права быць выбранымі.

*Арт. 19.* **Выбары ёсьць роўнымі, тайнымі і прапарцыянальнымі і адбываюцца пры дапамозе галасаваньня на сьпіскі кандыдатаў.**

*Арт. 20.* Дзень і месяц выбараў вызначае старшыня валаснога выбарчага камітэту. Выбары ня могуць адбыцца пазьней, як 15 дня пасьля абвяшчэньня сьпіску асобаў, выбраных на валасное сабраньне. Старшыня валаснога выбарчага камітэту павінен пісьменна паведаміць кожнага сябру валаснога сабраньня аб дню і месцы выбараў. Адпаведнае паведамленьне павінна быць даручана пад расьпіску кожнаму сябру валаснога сабраньня найпазьней 10-га дня па абвяшчэньні ўспамянутага вышэй сьпіску.

*Арт. 21.* На выбарчым сабраньні старшыня валаснога выбарчага камітэту, ці спэцыяльны прадстаўнік павятовага ўраду, павінен вытлумачыць правілы прапарцыянальных выбараў, якія адбываюцца спосабам галасаваньня на сьпіські кандыдатаў і пасьля гэтага заклікае прысутных да састаўленьня і складаньня гэтакіх сьпіскаў. У гэтых мэтах старшыня робіць перарыў паседжаньня.

*Арт. 22.* Кожны сьпісак павінен быць падпісаны найменей 5 сябрамі валаснога сабраньня. Няпісьменных падпісвае на сьпіску па іхняму жаданьню і ў іх прысутнасьці старшыня валаснога выбарчага камітэту. Сьпісак павінен мець у $1^{1}/_{2}$ разы больш кандыдатаў, чым лічба радных, якіх трэба выбраць. Сьпіскі з меншай лічбай кандыдатаў будуць лічыцца важнымі.

*Арт. 23.* На кожным сьпіску побач з прозьвішчам кандыдатаў павінна быць паказана: колькі гадоў мае кандыдат, чым займаецца і месца дзе жыве. Прозьвішчы кандыдатаў павінны быць зазначаны парадкавым нумарам.

*Арт. 24.* Пасьля падачы выбарчыкамі сьпіскаў кандыдатаў, валасны выбарчы камітэт глядзіць, ці адпавядаюць яны вымаганьням арт. 12. У выпадку непрызнаньня сьпіску важным, валасны выбарчы камітэт адкідае гэты сьпісак. Адпаведная група выбаршчыкаў мае права падаць новы сьпісак.

*Арт. 25.* Галасаваньне адбываецца пры помачы картак галасаваньня, якія павінна выдаць кожнай групе валасны выбарчы камітэт. Карта гэта павінна мець толькі нумар сьпіску кандыдатаў, на які выбаршчык падае свой голас. Нумар можа быць друкаваны, або пісаны цыфрай ці славамі.

*Арт. 26.* Галасаваньне адбываецца насупны спосабам: Выбаршчык падходзіць да стала, пры якім урадуе валасны выбарчы камітэт і называе сваё імя і прозьвішча. Пасьля праверкі, ці імя і прозьвішча гэтага выбаршчыка ёсьць у сьпіску сяброў валаснога сабраньня і пасьля ўстанаўленьня яго асабістасьці, выбаршчык атрымае канвэрт на галасаваньне, з прыложанаю ўрадаваю пячаткаю, адразу ўкладае ў яго картку і заклеіўшы канвэрт аддае старшыні камітэту, які кідае яго ў выбарчую урну. Адначасна адзін з сябраў валаснога выбарчага камітэту робіць адметку на сьпіску выбаршчкаў побач з прозьвішчам выбаршчыка, які падаў ужо свой голас.

*Арт. 27.* Ад самага пачатку галасаваньня і да заканчэньня яго ў памешканьні, дзе адбываюцца выбары павінння быць прысутнаю большая частка сябраў валаснога выбарчага камітэту.

Пабочным асобам забараняецца быць прысутнымі ў часе нарадаў і паданьня галасоў сябрамі валаснога сабраньня.

Аб ходзе галасаваньня вядзецца пратакол, які павінен быць падпісаны старшынею і найменей 2 сябрамі валаснога выбарчага камітэту.

*Арт. 28.* Па заканчэньні галасаваньня старшыня валаснога выбарчага камітэту вынімае з выбарчае урны ўкінутыя канвэрты і пералічвае іх не ўскрываючы. Потым спраўджае лічбу канвэртаў з лічбаю адметкаў на сьпіску галасаваўшых выбаршчыкаў. У выпадку нязгоднасьці гэтых лічбаў, зьмяшчае адпаведную агаворку ў пратаколе.

*Арт. 29.* У выпадку перарыву галасаваньня—выбарныя дакуманты, выбарная урна і канвэрты з карткамі для галасаваньня павінна быць апячатаны і захоўвацца ў выбарчым камітэце пад адказнасьцю валаснога выбарчага камітэту.

*Арт. 30.* Па магчымасьці безадкладна па заканчэньні галасаваньня, валасны выбарчы камітэт прыступае да спраўджэньня правільнасьці паасобных канвэртаў і картак галасаваньня і робіць падрахунак картак паданых за кожны сьпісак. Калі-б безадкладнае спраўджаньне правільнасьці картак і рахаваньня галасоў было немагчымым, дык павінна быць тасаваны правілы арт. 29.

*Арт. 31.* Няважнымі зьяўляюцца: 1) карткі галасаваньня, уложаныя ў іншыя чым з урадавай пячаткай канвэрты, або ў канвэрты з іншым знакам; 2) пустыя карткі галасаваньня; 3) карткі, выкарыстаныя выбаршчыкам спосабам непрадбачаны гэтым распараджэньнем, напр.: падпісаныя, або з нейкім асобным знакам; 4) кожная картка, з якою разам у канвэрце знайшлося-б што-колечы іншае.

*Арт. 32.* Аб няважнасьці картак галасаваньня, валасны выбарчы камітэт пастанаўляе аканчальна.

*Арт. 33.* Пасьля падрахаваньня галасоў, аданых на паасобныя сьпіскі кандыдатаў, валасны выбарчы камітэт прыступае да падзелу мандатаў радных паміж паасобнымі спіскамі гэтакім парадкам:

Лічба галасоў, якая падана на паасобныя сьпіскі акругляеццаа да найбліжэйшае цыфры якая дзеліцца на 10, пры гэтым адзінкі да 5 адкідаюцца, а да лічбы большай 5 дабаўляюцца адзінкі да 10.

Акругленыя гэтакім спосабам цыфры дзеляцца на 10. Атрыманы рэзультат паказвае, колькі мандатаў выпадае на кожны сьпісак.

Калі-б па выкананьні гэтага падзелу заставаліся яшчэ вольныя мандаты, тагды падзел гэтых рэшту мандатаў выконваецца ўжо гэтакім спосабам: колькасьць галасоў, якую атрымаў кожны сьпісак трэба падзяліць на лічбу мандатаў прызнаных гэтаму сьпіску, пасьля чаго тыя вольныя мандаты прызнаюцца пачарзе, па аднаму мандату тым сьпіскам, якія атрымалі найбольшы цыфравы рэзультат пры вышэй паказаным дзяленьні. Калі-б і ў гэтым выпадку засталіся яшчэ вольныя мандаты, дык ізноў праводзіцца гэтакае самае дзяленьне з тым аднак, што дзяліцелі будуць павялічаны на лічбу, якая паўстане разам са сьвежапрыпрызнанамі мандатамі.

*Увага да арт. 33.*

### Прыклад падзелу мандатаў:

Лічба сябраў валаснога сабраньня становіць 146. Дзеля гэтага ў валасную раду павінна быць выбраных 15 радных. Зьявілася на сабраньне і брала ўдзел у галасаваньні 123 сябры валаснога сабраньня. З аданых галасоў 5 прызнана няважнымі, астаецца знача 118 важных галасоў, якія паданы на 4 сьпіскі: №1, 2, 3 і 4, наступным спосабам:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Сьпісак | № | 1 | атрымаў | галасоў | 46; |
| „ | „ | 2 | „ | „ | 45; |
| „ | „ | 3 | „ | „ | 3; |
| „ | „ | 4 | „ | „ | 24. |

Дзеля гэтага:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Сьпісак | № | 1 | атрымлівае | 5 | мандатаў |
| „ | „ | 2 | „ | 4 | „ |
| „ | „ | 4 | „ | 2 | „ |

Сьпісак № 3 не атрымлівае ані воднага мандату.

Гэтакім парадкам раздана 11 мандатаў, 4 астаюцца вольнымі.

Для раздачы гэтых 4 мандатаў дзелім агульную лічбу галасоў атрыманых паасобнымі сьпіскамі на лічбу атрыманых ужо мандатаў:

| | | |
|---|---|---|
| Сьпісак | № | 1=46 : 5= 9 |
| „ | „ | 2=45 : 4=11 |
| „ | „ | 4=24 : 2=12 |

Найбольшы рэзультат у гэты раз атрымаў сьпісак № 4, наступны=№ сьпісак № 2 і найменшы сьпісак №1. Астаецца яшчэ адзін мандат. Дзеля таго, каб спраўдзіць якому сьпіску павінен належаць гэты мандат, ізноў дзелім агульную лічбу галасоў атрыманых на сьпіскі № 1, 2 і 4на агульную лічбу атрыманых ужо імі мандатаў:

| | | |
|---|---|---|
| Сьпісак | № | 1=46 : 6=7 |
| „ | „ | 2=45 : 5=9 |
| „ | „ | 4=24 : 3=8. |

Найбольшы рэзультат у гэты раз атрымаў сьпісак № 2, а знача апошні вольны мандат аддаецца гэтаму сьпіску.

Аканчальны рэзультат падзелу мандатаў будзе:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Сьпісак | № | 1 | атрымлівае | 6 | мандатаў |
| „ | „ | 2 | „ | 6 | „ |
| „ | „ | 4 | „ | 3 | „ |

*Арш. 34.* У выпадку калі-б некалькі сьпіскаў мелі аднолькавае права на гэтае самае месца, вырашае лёс.

*Арт. 35.* У выпадку падачы аднаго толькі сьпіску кандыдатаў, як роўна калі-б было падана некалькі сьпіскаў з агульнаю лічбаю кандыдатаў ня большаю ад лічбы радных, належных выбару ў данай воласьці, галасаваньне не адбываецца; заместа гэтага валасны выбарчы камітэт абвяшчае выбранымі на радных тых кандыдатаў, якія паданы ў сьпіску. У выпадку паданьня меньшае, чым трэба, лічбы кандыдатаў,—нястача да лічбы радных папаўняецца асобамі назначанымі ваяводаю.

*рт. 38.* Рэзультат галасаваньня ў відзе аканчальна ўстаноўленных сьпіскаў асобаў выбраных у радныя і іх заступнікі, старшыня валаснога выбарчага камітэту павінен безадкладна падаць да агульнага ведама спосабам, які звычайна ўжываецца для абвестак у данай мясцовасьці.

(*Глядзі канчатак на 3 старонцы*).

# Беларусы заграніцай.

### Чэхаславакія.

Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі 1-га г. чэрвеня зьвярнуўся да Рымскага Папы з гэтакай заявай:

„Яго дастойнасьці, Найсьвяцейшаму Айцу Папе Рымскаму:

Булла, выданая Вашай Сьвятасьцю на ўрачыстасьць Каранацыі Абраза Вострабрамскай Божай Мацеры на 2 ліпеня г. г., была з задаваленьнем прынята як каталіцкім, так і праваслаўным жыхарствам.

Гэты Абраз, раней належачы праваслаўным, аднолькава паважаецца, як праваслаўнымі, так і каталікамі. Гісторыя гэтага Абразу ўсім вядома.

Аднак, Каранацыя Абразу, як „Каралевы Кароны Польскай" абурыла ўсё мясцовае жыхарства бяз рожніцы вызнаньня.

У рэлігійнае пытаньне Вашай Сьвятасьцю ўнесена палітычная рыса, сцьверджаючая за Польшчай старую сталіцу Вялікага Княжства Беларуска-Літоўскага — Вільню. На гэта ня можа згадзіцца ні пры якіх варунках ні адзін сумленны Беларус, будзь то каталік ці праваслаўны.

Калі ўзяць пад увагу агульнае зневажэньне рэлігійнага і нацыянальнага пачуцьця Беларусаў, арышт за беларускую мову польскай уладай, як то: арышт за беларускую мову ў касьцёлі — ксяндза Гадлеўскага ў Жодзішках і пасадку яго не ў кляштар, а за краты турмы, супроць нават конкордату, высылку з Беларусі беларускіх ксяндзоў (Шутовіч і інш.) і прызначэньне на іх мейсцы ксяндзоў з Польшчы, — то без памылкі амаль напрашваецца думка, што ўсё гэта робіцца, калі не з Вашай, то з агульна-Апостальскай сталіцы хоць і маўклівай згоды, якая лічыць Вільню польскай, а Абраз Вострабрамскай Божай Мацеры — „Каралевай кароны польскай".

Даводжу гэта да ведама, каб потым мець права пры нязгодах у каталіцкай царкве на Беларусі, узлажыць адказнасьць за гэта на тых, хто неправідлова высьвятляў Вашай Сьвятасьці рэлігійныя, нацыянальныя і палітычныя намеры на Беларусі".

Старшыня Рады
(—) Т. Крэчэўскі.

### Амэрыка.

У м. Дэтройце, Мічыган, беларуская праца мае вялікі пасьпех. Заложана „Таварыства помачы Беларусі". Галоўнымі дзеячамі гэтага Т-ва зьяўляюцца грамадзяне: Якаў Беразоўскі, Захар Скарбук, Антон Ціхановіч, Алесь Чарніковіч, Якаў Балабка, Андрэй Шчалкун і другія.

У нядзелю, 3-га красавіка г. г. адбыўся „Беларускі мітынг пратэсту" ў м. Гэрі, штат Індыяна, проці ўціску Беларусаў на Бацькаўшчыне. З прамовамі і вытлумачэньнямі выступалі прыехаўшыя з Чыкага: Я. Варонка, Антон Змагар, В. Трафімовіч, І. Романовіч і др.

Прысутнымі былі выхадцы з б. Віленскай, Горадзенскай, Менскай, Магілеўскай, Вітэбскай і Смаленскай губэрніяў.

У суботу, 7 траўня г. г. грам. М. Шапавал адчытаў рэфэрат у Чыкага на тэму „Нацыянальнае пытаньне на ўсходзе Эўропы". Рэфэрат меў вялікі пасьпех. Паслухаць паважанага дзеяча сабралося болей 300 чалавек. Грам. Шапавал гаварыў каля трох гадзінаў. У фонд дапамогі палітычным вязьням у Польшчы сабрана 11 даляраў 30 цэнтаў.

14 і 15 траўня г. г. у м. Дэтройці, Мічыган, адбыліся дзьве лекцыі беларускага дзеяча Я. Варонкі, які гэта першы раз прыехаў у Дэтройт з Чыкага. У суботу, 14 траўня гр. Я Варонка адчытаў лекцыю на тэму: „Беларусь ад Керэнскага да Пілсудскага" а ў нядзелю, 15 траўня на тэму: „Тры этапы беларускага адраджэньня". (1-ый—этап пэрыяд да 1905 г., 2-гі—1905—1917 г. і 3-ці—з 1917 г. да нашых дзён). Лекцыі адбыліся ў „Украінскім Доме".

У сувязі з гэтымі лекцыямі расейскія газэты ў Амэрыцы пішуць: „Трэба ўспамянуць, што грам. Варонка зьяўляецца тым дзеячам, які браў удзел у Лютавай Рэвалюцыі і ў парэвалюцыйных арганізацыях. Ён быў сябра Маскоўскага Дзяржаўнага Сабраньня, Рады Расейскай Рэспублікі, кандыдатам на Ўсерасейскае Ўстаноўчае Сабраньне. Браў удзел ува ўсіх беларускіх зьездах і быў старшынёю першага Беларускага Ўраду. У беларускім руху бярэ ўдзел з 1909 году. Гэткім чынам лекцыі грам. Варонкі цікавыя, ужо толькі дзеля таго, што ён зьяўляецца жывым сьведкаю шмат-якіх здарэньняў апошніх дзесяці гадоў—на ўсходзе Эўропы.

# НАВІНЫ.

**— Выбары ў Навагрудзкім павеце.** У Навагрудзкім павеце ў хуткім часе маюць адбыцца выбары ў валасныя рады. Пакуль што на 15-га чэрвеня с. г. вызначаны выбары па вёсках. У Любчы для правядзеньня выбараў стараста вызначыў Выбарную Камісію ў такім складзе: 3—асаднікі, 1 — Паляк, 1 — Беларус і 1—Жыд. Такім складам Выбарнае Камісі вельмі абурана сялянства. На 13 тысяч беларускага насяленьня воласьці ёсьць каля 30 сем'яў асаднікаў, і вось, ня гледзячы на такія адносіны ў ліку насяленьня ад Беларусаў увайшоў толькі адзін чалавек, а ад Палякоў аж 4.

Ёсьць ведама такі склад выбарнай камісіі не дае гварантыі, што выбары будуць праведзены бесстаронна і без пагвалчэньня закону.

**— Канфіскаты.** Надзвычайны выпуск „Новая Россія" за зьмяшчэньне заклiку аб складаньні ахвяраў на дапамогу забойцы пасла Войкава, Кавэрдзе і яго сям'і камісар ураду на м. Вільню канфіскаваў.

**— Metoda Szykan.** 6 г. чэрвеня Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў Жодзішках, Вялейскага пав. ладзіў пробу тэатральнага прадстаўленьня ў памешканьні жодзіскага касьцельнага дому.

Камэндант паліцыі жодзіскага пастарунку палічыўшы гэта за праступак, сьпісаў усіх прысутных, кажучы, што ня мелі права ладзіць пробнага прадстаўленьня, пры гэтым страшыў і пагражаў адмірістрацыйнымі карамі, вастрогам і г. д.

Цэнтральны Ўрад Інстытуту падаў аб гэтым жалабу п. Віленскаму Ваяводзе.

## Аддзел Міжнародных Зносін А.Б.С.А.

(З дакладу Прэзыдыуму).

Цэнтраля Міжнароднае Студэнтскае Канфэдэрацыі (С.І.Е.) паведамляе аддзел.

У апошніх часох арганізаваны:

1) Унівэрсытэцкі Інстытут інтэрнацыянальных высокіх школ у Жэнэве, які мае займацца выкладамі навук юрыдычных, палітычнх, эканамічных і сацыяльных.

2) Бюро інтэрнацыональнае студыі ў Жэнэве, якое арганізуе лекцыі а) ад 11/VII да 5/VIII Праблемы інтэрнацыянальнай палітыкі і b) ад 8/VIII да 2/IX Праблемы інтэрнацыянальнай улады. Выкладаюць найлепшыя эўрапэйскія навуковыя сілы.

Выпушчаны адзнакі Міжнароднае Студэнтскае Канфэдэрацыі (С. І. Е.). Просімо студэнтскія арганізацыі набываць гэныя адзнакі; беларускае студэнтства можа набыць іх цераз Аддзел Міжнародовых Зносін А.Б.С.А. З дужа многіх паданых праектаў успомненае адзнакі, прыняты праект Украінца.

Падчас IX з'езду С.І.Е. ў Рыме (ў восені 1927 году) маюць адбыцца міжнародныя студэнтскія гульні (спорт), ў якіх дужа пажадана было-бы, каб беларускія студэнты-спортоўцы прынялі чынны ўдзел; падрабязныя інфармацыі можна дастаць ў Аддзеле Міжнародовых Зносін А.Б.С.А.

Міжнародная Студэнская Канфэдэрацыя (С.І.Е.) арганізоўвае Інтэрнацыянальную Студэнтскую Санаторыю ў Швайцарыі, дзеля чаго запатрабавана статыстыка аб здароўі і лячэньні студэнтаў паасобных нацыянальнасцяў. Аддзел Міжнародных Зносін А.Б.С.А. падаў адпаведныя інфармацыі па гэтаму пытаньню аб Беларускім студэнтстве. 16/IV г. г. ў Жэнэве адбылося паседжаньне Выканаўчага Камітэту С.І.Е. пад старшынством прафэсара дэ Рэйнольда з Балю, на якім прыняліся пастановы дужа важныя у жыцьці студэнтаў а іменна:

1) аб арганізацыі Міжнароднай Цэнтралі для усіх студэнтскіх арганізацыяў; як часовы цэнтр устаноўлены Студэнтскі аддзел пры Інстытуце Інтэлектуальнай супрацы ў Парыжы,

2) аб завядзені 50% зьніжак на ўсіх жалезных дарогах і параходах дзеля студэнтаў сяброў С.І.Е.. а выходзячы з гэтага пастаноўлена завясьці міжнародную студэнтскую легітымацыю;

3) аб міжнародным прызнаваньні сэмэстраў бяз ніякіх нострыфікацыяў;

4) аб узаемнай супрацы і дапамозе паасобных студ. арганізацыяў;

5) аб прыняцьці ўдзелу на міжнароднай выстаўцы друкаў ў Кэльне над Рэйнам ў 1928 годзе, пасярэдніцтвам паасобных Студэнтскіх Цэнтральных Саюзаў.

Ад 3—15/VIII ў Лёкарна адбудзецца міжнародная конфэрэнцыя па пытаньні аб увядзеньні новай сыстэмы ў навуцы (выкладах), як ў сярэдняй так і ў вышэйшай школе. Трэба каб і беларускія пэдагогі зьвярнулі на гэта увагу. Інфармацыі ў Аддзеле Міжнародных Зносін А.Б.С.А.

Прэзыдыум А.Б.С.А.

# Да нас пішуць.

### Гісторыя аднэй коопэратывы.

Было гэта ў 1919 годзе, калі была галадоўка і амэрыканская мука ў модзе. А найлепшы гандаль тагды як галадоўка, дык і надумаўся войт гміны Ялоўка коопэратыву заклась ці, каб можна было гандляваць і красьці. Ксёндз, каб давалі грошай, людзей намаўляў, а войт Рудзеўскі па 300 марак зьбіраў. Вядома, з благаславенства лёгкая рука, паказалася ў коопэратыве „амэрыканская" мука і рознага тавару было ня мала, было на'т „амэрыканскае" сала, а як на лёяльнасьць тады была мода, дык коопэратыву назвалі „Згода". Прашло некалькі гадоў, на коопэратыву стаўся „zamach", сала і мука зьявіліся па ўсіх крамах. Сябры ў „раду" не заглядалі і далёка яе міналі, бо ў жыдоў таней усё дасталі. Бачаць наш Міхал і Тамаш, што ў „Згодзе" сэнсу нямаш, узялі вывеску перамянілі і ў „sklep polski" коопэратыву ахрысьцілі. Гэтаму сябры не дзівіліся, бо аб паёх сваіх забыліся. Пазьней і „sklep polski" раздваіўся, бо Міхал ад Тамаша аддзяліўся. Цяпер народ дзівуецца як-то ім так шчасьліва таргуецца?! А ў іх гандаль таму харошы, што за нашы таргуюць грошы.

Голка.





Дык кожны, хто ўмее чытаць, спяшайся выпісаць сваю газэту „Сялянскую Ніву".

Рэдактар і выдавец К. Мацкевіч.

Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.